

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 МАЙ 7 ПЯТНІЦА

№ 84 (519)

Цана 5 рублёў


• НІЧЫЙНАЯ ПАЛАСА

## ДЭМАКРАТЫЯ ПАВІННА ЎМЕЦЬ АБАРАНЯЦЦА...

ПАВЕЛ ВЕРАБ'ЁЎ.

**Рэвалюцыя толькі тады нечага вартая, калі яна ўмее абараняцца — так, здаецца, некалі вучыў Уладзімір Ільіч сваіх паплечнікаў непахісна ўтрымліваць заваяваныя пазіцыі. Катэгарычны недвухсэнсоўны пасыл меў на ўвазе і набор усіх даступных сродкаў абароны.**

Апошняя рэвалюцыя, па ацэнках сучасных палітыкаў, у нас адбылася ў жніўні 1991-га. Паспяхова справіўшыся з пераразмеркаваннем улады і мадэрнізацыяй уладных структур, рэвалюцыянеры апынуліся перад праблемай неабходнасці забеспячэння работы каналізацыі і ацяпляльнай сістэмы. І тут жнівеньская рэвалюцыя, як і большасць вядомых нам рэвалюцый, пачала спатыкацца. Інтарэсы тых, хто вокамгненна скарыстаў вынікі пераўтварэнняў, і тых, хто даверліва чакаў з рук пераможцаў сваю долю, пачалі распаўзацца ў бакі, як шынель гогалеўскага Акакія Акакіевіча. Не думаю, каб пераможцы з самага першапачатку замыслівалі «занычыць» чужую долю. Можа яны і хацелі, каб народу было добра. Але прыпасы падрастраціліся, і даць сёння проста няма чаго. Кажуць, што японцы, калі ў іх канчаецца рыба, садзяцца на караблі і выходзяць у мора. У нас стала завядзёнкай збіраць сход і высвятляць адносіны паміж рыбакамі і едакамі.

Замест таго каб адправіць караблі ў мора, уладальнікі камандных вяршынь пачалі ўсімі сродкамі пераконваць людзей у тым, што ўсё ў парадку. Правільным курсам ідзём, таварышы! — гучыць са старонак газет, з радыё і тэлепрыёмнікаў. Ды гэтак пераканаўча гучыць, што выказванне любога сумнення зрабілася «дурным тонам». Знай, памоўчвай. І вымушаны памоўчваць. Дзякуй, што пакуль не прымушаюць на крык «халва, халва!» з настроем прыцмокваць языком — ах, як салодка.

Памоўчваюць, ды не ўсе. І гэта непакоіць больш за ўсё. Непакоіць не сам факт іншадумства. Трывожыць агрэсіўная форма нязгоды. У грамадстве заўважаны толькі канфрантацыйныя формы іншадумства, амаль не відаць таго сярэдняга слою, за кошт якога і харчуюцца супрацьстаячыя бакі. Падзеі ў бліжэйшага расійскага суседа — таму сведчанне.

Сакавік. Апантаная спроба супрацьстаячых бакоў звесці стасункі канчаткова і пры гэтым не выходзіць з «канстытуцыйнай прасторы». Не атрымалася. Падрыхтоўка і правядзенне рэферэндуму аб даверы прэзідэнту гранічна накаліла атмасферу. Ельцынская каманда публічна святкуе перамогу і адчувае за сабой права ставіцца да апазіцыі як да паваленага вярблюда. Такому погляду спрыяла публіцыстычна-псіхалагічная падрыхтоўка: маўляў, Ельцын не змог скарыстацца вынікамі жнівеньскай перамогі. І вось зноў перамога. Ёсць, нарэшце, магчымасць сцвердзіць, хто ў доме гаспадар...

Апазіцыі, пададзенай у сродках масавай інфармацыі, як «чырвона-карычневыя», адступаць няма куды. Умовы гульні гладыятарскія: альбо — альбо. Кампрамісна-канструктыўныя сродкі высвятлення ўзаемаадносін вычарпаны.

Трагедыя першага мая злавесна напомніла палітычную азбуку — мірныя сродкі супрацьстаяння на зыходзе. Самае страшнае — ніхто не жахнуўся, не аб'явіў нацыянальную жалобу, не звярнуўся да ўласных душы і розуму ў асэнсаванні здзейсненага. Балюча пранізала здагадка: а, можа, у вышэйшых колах і не расцэньваюць першамайскае кровапраліцце як крок да катастрофы? А што калі для іх гэта толькі чарговы акт фароскай інсцэніроўкі?

Першую насцярожанасць выклікалі «скоропостижные» і катэгарычныя тэлекаментарыі: «кровавое злодеяние» чырвона-карычневых. Людзям хочацца як мага больш фактаў, а ім — адносіны да фактаў, хаця заключэння следчых органаў пакуль няма. Магчыма памыляюся, але падаецца, што ў органах друку замест смутку з нагоды крывавых падзей — нейкая нецярплівая ўзбуджанасць інтэрпрэтатараў. Некаторыя публіцысты сцвярджаюць, што падзеі былі запраграмаваны, далікатна намякаюць на Магадан, як сродак умацавання дэмакратыі.

З тым, што падзеі былі запраграмаваны, бадай, можна пагадзіцца. Не вазьму смеласць сцвярджаць кім, лепш спынюся на больш відавочным. А відавочна тое, што крывавай развязкі хацелі абодва бакі. Хаця б дзеля падставы для новага ўзмацнення барацьбы. Прынцып: трымай злодзея! У каго прапагандысцкае горла акажацца мацнейшым, той і стане лаўцом, у каго слабейшым — злодзеем. У прыхільнікаў прэзідэнта, як паказала перадрэферэндумская кампанія, тут шанцаў больш. Махавік запушчаны, спіраль раскручваецца.

Успамінаецца сцвярджэнне старажытных: няма нічога рэакцыйней за дэмакратыю. Ад сябе дадам: асабліва калі яна ўмее абараняцца. Некаторыя аракулы прагна прадказваюць грамадзянскую вайну. Як на магчымую сцяжыну вайны глядзяць на маршрут дэманстрацый 9 мая.

Дзень Перамогі — дзень пачатку вайны? Дэмакратыя будзе абараняцца? А можа ўсё ж знойдзе сілы і абвергне сцвярджэнне старажытных мудрацоў? Альбо — альбо.

## Пераможная вясна 1945 года у 48-ы раз уваходзіць у нашы дамы. СА СВЯТАМ ВАС!



А.ФОРОФОНТОВА.



Петру Дмитриевичу Форофонтову, моему отцу, защитнику Родины.

### МОЙ ОТЕЦ НЕ ПОГИБ...

Мой отец не погиб на войне,
Он ее всю измерил шагами.
До Берлина дошел, на рейхстага стене
Гордо вывел — «ПОБЕДА ЗА НАМИ!».

От инфаркта он умер — сказали врачи,
Просто вышел из дома, упал и скончался ...
Было тихо, тепло, не кричали грачи,
Желтый лист на березе качался...

Я не верю в диагноз такой —
Так солдаты не умирают...
Это пули, отлитые прошлой войной,
В сердце бывшим солдатам стреляют.



*ВСПОМНИМ ТЕ ИСТОРИЧЕСКИЕ МГНОВЕНИЯ*

НА СНИМКАХ из фототеки БЕЛИНФОРМа:

- Маршал Г.К.Жуков подписывает акт о капитуляции фашистской Германии.
- Знамя Победы над Рейхстагом..
- Салют Победы.

СОВЕТ МИНИСТРОВ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

**РАСПОРЯЖЕНИЕ**

5 мая 1993 г № 354р г.Минск

В связи с праздником Днем Победы оказать материальную помощь ветеранам Великой Отечественной войны в размере 6 тыс. рублей и семьям военнослужащих, погибших в этой войне, — 3 тыс. рублей.

Председатель Совета Министров Республики Беларусь В.КЕБИЧ.

## КАЛЯНДАР

ПЯТНІЦА, 7 МАЯ (ТРАЎНЯ).

*СОНЦА — 5.22/20.51.*
*Даўжыня дня — 15.29*
*МЕСЯЦ — поўня 6 мая захад 5.31/усход 22.35.*

**Імяніны:**

**Сёння:** *Праваслаўныя: Аляксея, Валянціны, Лізаветы, Савы.*

*Каталіцкія: Бенедыкта (Бэнэдыкта), Гізэлі, Людмілы, Людаміра.*

**Заўтра:** *Праваслаўныя: Марка, Сільвестра.*

*Каталіцкія: Віктара, Станіслава.*

**У нядзелю:** *Праваслаўныя: Васіля, Глафіры, Іаніхія, Стэфана, Тавіфы.*

*Каталіцкія: Кацярыны, Рыгора, Пархома.*

*5-я НЯДЗЕЛЯ ВЕЛІКОДНАЯ*

**Народны каляндар:**

**У пятніцу** — *на Аляксея — сеялі авёс.*

**У суботу** — *на Марка — прылятаюць чародамі пеўчыя птушкі. А ў беларусаў-каталікаў — Станіслаў: «Сей лён на Станіслава — вырасце як лава».*

• ПАДПІСКА-93

## ЧЫТАЧЫ! Выбар за вамі.

І ВОСЬ зноў перад кожным з Вас, шаноўныя чытачы, паўстала праблема: якой газеце, часопісу аддаць перавагу? У сувязі з гэтым многія звоняць і пытаюцца: які кошт «Добрага вечара» ў параўнанні з іншымі выданнямі? Можна сказаць адразу: нягледзячы на сур'ёзныя эканамічныя складанасці, мы знайшлі магчымасць зрабіць падпісны кошт на «Добры вечар» самым даступным у параўнанні з іншымі гарадскімі, рэспубліканскімі і маскоўскімі выданнямі. Паглядзіце наступную табліцу, параўнайце і зрабіце вывады.

| Назва газеты | Колькі разоў у тыдзень выходзіць | Кошт падпіскі на 6 месяцаў (у рублях) |
|---|---|---|
| *Гарадскія вячэрнія газеты* | | |
| «Добры вечар» (Мінск) | 5 | 420 |
| «Вечерний Минск» | 5 | 450 |
| *Рэспубліканскія выданні* | | |
| «Народная газета» | 5 | 780 |
| «Советская Белоруссия» | 5 | 780 |
| «Белорусская нива» | 5 | 780 |
| «Рэспубліка» | 5 | 780 |
| «Звязда» | 5 | 624 |
| «Знамя юности» | 5 | 780 |
| «Чырвоная змена» | 3 | 288 |
| «7 дней» | 1 | 390 |
| «Беларускі час» | 1 | 396 |
| *Маскоўскія выданні* | | |
| «Известия» | 5 | 1398 |
| «Комсомольская правда» (включая субботний выпуск) | 5 | 1398 |
| «Рабочая трибуна» | 5 | 1011 |
| «Правда» | 5 | 1659 |
| «Независимая газета» | 5 | 2307 |
| «Коммерсантъ дейли» | 5 | 3603 |

Дарэчы, каб усталяваць найбольш цесны кантакт з чытачамі, у рэдакцыі створаны «Гарачы тэлефон «ДВ». Яго нумар 68-26-93. Звяртайцеся па ім са сваімі пытаннямі, прапановамі, заўвагамі. На іх падставе будуць фарміравацца падборкі «Гарачы тэлефон «ДВ», «Набалела», «Пытанне — адказ». Матэрыялы апошняй рубрыкі чытайце сёння на 2-й старонцы.

**Памятайце, «Добры вечар» заўсёды ўлічваў, улічвае і будзе ўлічваць і абараняць інтарэсы сваіх чытачоў. Так што, выбар за Вамі.**

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФОРМ І ЎЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ»*

### ИНВАЛИДЫ ПРОТЕСТУЮТ

5 МАЯ В МИНСКЕ ПЕРЕД ДВОРЦОМ СПОРТА СОСТОЯЛСЯ МИТИНГ ИНВАЛИДОВ.

Наряду со словами благодарности в адрес правительства подчеркивалось, что для этих людей делается не столь много, сколько необходимо. Звучали протесты по поводу нарушения прав инвалидов на труд, образование, свободу передвижения.

Было принято обращение к Верховному Совету Республики Беларусь и местным Советам.

### В ПОДАРОК КАЖДОМУ РЕБЕНКУ ПО...«МЕРСЕДЕСУ»

ПО ШИКАРНОМУ автомобилю самых разных зарубежных марок получит каждый воспитанник минского детского дома номер 2 во время благотворительной акции, которая состоится 8 мая в Республиканском выставочном центре. Такие подарки, правда, пока в виде игрушек, малышам вручат представители белорусской холдинговой компании «Услуга БК».

Помимо изысканного заокеанского угощения — ананасов, бананов, конфет, — малышей ждет и знакомство с заманчивым миром современных авто. Организаторы не забыли пригласить на праздник и шофера, чтобы ребята могли не только посмотреть на взрослые «игрушки», но и прокатиться на «линкольне», «мерседесе», «вольво».

Что ж, гуляй, детвора, — платит «Услуга». Кстати, деньги немалые — более 6 миллионов затратили организаторы этой акции.

### МИЛЛИОН НА ПАМЯТНИК

*ЛИДЕР Белорусской социал-демократической Громады Олег Трусов обратился к руководству Белорусского народного фронта «Возрождение», других демократических партий и организаций с просьбой оказать материальную поддержку в воздвижении памятника М.Ткачеву.*

*Согласно последним подсчетам, стоимость памятника бывшему лидеру БСДГ превышает миллион рублей. Около 80 тысяч в фонд памятника уже перечислено от граждан Беларуси и ближнего зарубежья.*

### СПОРТИВНЫЙ ПРАЗДНИК

**В ОРГАНИЗАЦИЯХ Оборонного спортивно-технического общества Республики Беларусь завершается месячник, посвященный 48-й годовщине Победы в Великой Отечественной войне.**

**В ряду этих мероприятий пройдет и авиационно-спортивный праздник, который состоится 8 мая вблизи военного городка «Масюковщина». Начало в 11 часов. В программе праздника пилотаж на вертолетах, прыжки парашютистов, показательные выступления авиамоделистов, клуба служебного собаководства, соревнования по автомотокроссу.**

### ДИПЛОМАТИЯ ПО НОТАМ

АРТИСТЫ Государственного академического народного хора имени Г.Цитовича и Государственный академический оркестр народных инструментов имени И.Жиновича отбыли в Турцию для участия в Международном музыкальном фестивале. Возможность побывать на этом престижном форуме музыкантов, который традиционно проходит в Анкаре в честь известной артистической семьи Севда-Дженап Анд, нашим мастерам предоставило Посольство Турецкой Республики в Беларуси.

### ВСТРЕЧА С ВЕТЕРАНАМИ

В КАНУН Дня Победы председатель горисполкома А.М.Герасименко встретился с представителями городского и районных Советов ветеранов Великой Отечественной войны.

Мэр города тепло поздравил ветеранов с праздником, рассказал о состоянии дел в городе, поблагодарил их за участие в жизни города.

Во встрече приняли участие заместители председателя горисполкома И.Б.Зеленкевич, А.В.Сосновский.

Пресс-центр Мингорсовета.

## КРИМИНАЛ

### «ДОПЕЛИСЬ»

И.Б.КОПАЧ, майор милиции.

**НЕПЛОХО вначале «спелись» между собой водитель Минского завода колесных тягачей К. и работник охраны этого же предприятия Г. Обзавелись они на заводе ходовым «товаром» — тремя топливными баками для «легковушек», составными частями к автоприцепам «Зубренок», 25 кг резаной медной трубки. Удалось без проблем переправить все за пределы заводской территории. Но не дальше Партизанского проспекта и ул. Ангарской. Именно там, на перекрестке, в 4.30 утра (!) столь удачно начавшаяся «операция» дельцов, была прервана группой задержания, состоящей из сотрудников милиции отдела охраны Заводского района (руководил — младший лейтенант Д.Кулага). В общем, «допелись» хлопцы до уголовного дела...**

• ГАСТРАНАМІЧНЫЯ НАВІНЫ

### СЫРЫ ВЯРНУЛІСЯ

ЗДАЕЦЦА, гэты, у свой час звычайны, прадукт прапаў для мінчан назаўсёды. Калі «плаўленыя сыркі» яшчэ калі-нікалі ўзнікалі ў магазінных вітрынах, то «Пашахонскі», «Букавінскі» з сутродзічамі трывала іх абміналі. Праўда, знаўцы сцвярджалі, што сыры, хоць і ў меншай колькасці, у рэспубліцы ўсё ж вырабляюцца — аб гэтым сведчыла і іх наяўнасць у крамах недалёкіх ад Мінска райцэнтраў. Сырную адсутнасць тлумачылі вялікім унутраным спажываннем гэтага прадукта гандлёвымі работнікамі, якія «чаўнакамі» гойсалі з ім на Літву, у Маскву, Рыгу. Дзе ж тут на ўсіх хопіць?

Цяпер жа, праўда, з новымі цэннікамі сыры вярнуліся і да простых спажыўцоў. Многія ўжо бачылі «Сялянскі», «Пашахонскі», «Расійскі», некаторыя змаглі іх пакаштаваць. Кошт «далікатэсу» ад 660 да 732 рублёў.

### СКОРО «СКАЗКА» СКАЗЫВАЕТСЯ

**ЕСЛИ вы привыкли праздник встречать с тортом, то должны быть готовы к тому, что это сладкое блюдо обойдется в немалую «копеечку». После очередной оценки «Минский» потянул уже на 515 рублей, 578 стоит «Вишня», 630 — «Ленинградский», «Сказка» «взяла» семисотрублевый рубеж, а о том, что и тысячный им уже по плечу, свидетельствует «Лилия» — в 978 «зайчиков» обойдется это украшение стола. Причем, ни разнообразия, ни изобилия тортовой продукции в наших магазинах не наблюдается. Не зря ведь многие хозяйки сами пекут торты — хотя работа и требует затрат времени, но продукт получается намного дешевле. Кстати, как сообщил недавно «Маяк», в Москве знаменитые фирменные, выпекаемые в ресторанах «Прага» или «София», стоят в пределах 600 рублей.**

Ф. СП-1

Министерство связи РБ
Министерство информации РБ
"Белсоюзпечать"

АБОНЕМЕНТ на газету 63931 (индекс издания)

ДОБРЫ ВЕЧАР

Количество комплектов:

на 1993 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда (почтовый индекс) (адрес)

Кому (фамилия инициалы)

ПВ место литер на газету 63931

ДОБРЫ ВЕЧАР

| Стоимость | подписки | руб | коп | Количество комплектов: |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | руб | коп | |

на 1993 год по месяцам

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда (почтовый индекс) (адрес)

Кому (фамилия инициалы)

